# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№4 (251)

красавік 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## “Беларускі цуд”: наша традыцыйная культура прарастае ў Літве

Для кіраўнічкі гурта традыцыйных спеваў “Беларускі цуд” Святланы Чакушкі беларускі фальклор – гэта “і тэрапія, і паглыбленне ў нашу культуру, і прасоўванне яе там, дзе апынуліся зараз многія беларусы”.

Старонка 4






# НОВАЕ ВЫДАННЕ МІХАСЯ КАВЫЛЯ Ў БІБЛІЯТЭЦЫ “БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”

Дачакаліся: творы пісьменнікаў беларускай эміграцыі зноў выходзяць у эміграцыі, і таўталагічна гэта настолькі ж, наколькі і лагічна. Крышацца дахі, змяняюцца правілы, выходзяць у палонку рыбы з абодвух бакоў. Вільню з Беластокам, дзеля паліткарэктнага такту, не назавеш Заходняй Беларуссю, але ў цэлым стогадовае кола пракруцілася на ўсе трыста шэсцьдзясят, і Міхась Кавыль прыходзіць да беларускага чытача па старой методзе – з-за мяжы.

У цэлым калекцыянеры эміграцыйных выданняў цяпер могуць быць задаволеныя: геаграфія выдавецтваў пашырылася, з’яўляюцца новыя творы, старыя запісваюць у экстрэмісцкія, адно што бракуе размаху, але не будзем яго прыспешваць прамоўленым словам.

Кніга стогадовага патрыярха беларускай літаратуры тут ва ўсіх сэнсах знакавая і паказальная, найперш – нагадвае старую прымаўку, што беларусу трэба жыць вельмі доўга, каб штосьці пабачыць.

Кавыль заспеў Першую сусветную вайну, друкаваўся ў “Маладняку”, адчуў на сваёй скуры гулагаўскі холад, салдацкія крывавыя будні, паны лагер для савецкіх ваеннапалонных, акупацыйную Беларусь і неўзабаве – беларускі лагер для перамешчаных асобаў, урэшце, на паўстагоддзя, Амерыку, дзе спачатку акрыліла свабода, а потым завяліла цяжкай працай, з якой на паэзію заставалася ўсё менш часу. Наракаць і гараваць тут няма пра што. Як той казаў, дзякуй, што жывы, а пражыў Кавыль 101 год, пры самых складаных катаклізмах XX стагоддзя і ўсіх паганых выкліках, якія толькі можна сабе ўявіць. Застаецца толькі падзівіцца трывушчасці беларускага пісьменніка, якому, стоячы на адной назе ўнутры атамнага рэактара, усё яшчэ хочацца пісаць і лічыць сваё пісьмо неабходнай справай.

З нашай лагернай літаратуры тэксты Кавыля (“Казённы дом і далёкая дарога”, “Мой шлях”) – адныя з найлепшых, безумоўна.

Працяг на старонцы 2.




## СЕРЫЯЛ “ТРЫЗУБ І ПАГОНЯ” АД КАМПАНІІ “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!”

**Гістарычны серыял прысвечаны самым цікавым старонкам супольнай гісторыі Беларусі і Украіны. Таямнічы свет войнаў і інтрыг, кахання і барацьбы за ўладу, смерці і нараджэння дзяржаў адкрывае гледачам тэлевядоўца і спявачка Кацярына Ваданосава.**

**навіны “Бацькаўшчыны”**

# НОВАЕ ВЫДАННЕ МІХАСЯ КАВЫЛЯ Ў БІБЛІЯТЭЦЫ “БАЦЬКАЎШЧЫНЫ”

Працяг са старонкі 1.




І не толькі сваёй тэматычнай “лагернасцю”, але й выпісанай атмасферай 1920-х – 1930-х у Мінску, адлюстраваннем постузвышэнскага пакалення маладзёнаў, якіх накрыла ўсведамленнем новай рэальнасці навакольных арыштаў і бясконцых трагедый. Дзе ў той жа час ёсць месца адвазе і рызыцы.

“Пасьля ўсяго перажытага канцлягер уяўляўся мне нейкім домам адпачынку. Цэлы дзень чакаў я, ня мог дачакацца таго этапу. Ажно дзесь каля дванаццатай гадзіны ночы загадалі “строиться в колону”. “Построили” на двары вастрогу й пад аховай канвойных павялі па засьнежаных вуліцах на таварную станцыю. Падаў густы сьнег. Было ціха й прыгожа, як на Каляды ў нашай вёсцы Покаршаў. Вуліцы былі бязьлюдныя. Ліхтары на слупох быццам падміргвалі нам, казалі: ня бойцеся, усё будзе добра.

Із-за вугла дому выскачыла нейкая жанчына зь мяшком на плячох. Хуценька падбегла да Максіма Лужаніна, аддала яму мяшок і пабегла назад да дому. Канваіры крыкнулі на яе, але не стралялі”.

Гэтай жанчынай была Яўгенія Эргардаўна Пфляўмбаўм. Дачакалася ўначы этапу, выбегла пад цалкам рэальныя кулі, знайшла мужа і ўратавала яму і цэламу вагону этапнікаў-літаратараў жыццё сваім мехам сухароў.

Спелы, наліты энергіяй паэт Міхась Кавыль. Гэта паэт-кніжнік. Калі бачыш у вершы “Не кувай” (1933) радкі “Не кувай, зязюлечка, не кажы, што нядоўга застаецца мне пажыць” альбо, там жа, “Я хачу навек забыцца і заснуць”, разумееш, што паэт чытаў “Не кувай ты, шэрая зязюля, сумным гукам у бары; Мо і скажаш, што я жыці буду, але лепш не гавары” і верш Лермантава, канечне, таксама (“Выхожу один я на дорогу”). Тое самае з “***Сібір, Сібір – халодная магіла, Забыць цябе няма ніякай сілы, Старая ведзьма, мачыха мая!” (Новасібірск, 1934) намякаюць на зусім канкрэтныя творы беларускай літаратуры, аднак цытаты тут нібыта кладкі, па якіх паэт можа прайсці свае блуканні па пакутах. Ён выказвае свой боль цытатамі з улюбёнай паэзіі, каб ён стаўся яшчэ больш яркім і ў той жа час прыглушаным, бо перажываць яго наноў не хочацца нават рэалістычным успамінам.

Што яшчэ адрознівае Кавыля – пэўнага кшталту адважнасць, цвёрдасць, шырока зразуметае вальнадумства. Гэта не нарцысічнае пазёрства Сяднёва альбо скручаны пальцамі эратызм Крушыны; значна бліжэйшы яму Алесь Салавей, аднак той, дзе няма хваравлівага надрыву.

Паэзія Кавыля – гэта найперш паэзія яснасці, складання фрагментаў рэчаіснасці з наяўных пад рукамі элементаў, а цаглінак-вобразаў з такой багатай біяграфіі можна было набраць парадкам. Можна сказаць, што гэтай падкрэсленай яснасцю ён недзе й пераганяе класіка-Салаўя (не кажучы ўжо пра маёра Тома – Янку Юхнаўца), аднак недзе гэтым і прайграе яму ў якасці.

Адзін з пікантных літаратурных канфліктаў эміграцыйнай паэзіі я некалі ўжо адмыслова разбіраў у артыкуле на 70 старонак 14-м кеглем. Маю на ўвазе публікацыю двухбаковага эпісталярыю Кавыля і Антона Адамовіча, прысвечанага стварэнню першага беларускага вянка санетаў. Абцяжарвалася праблема тым, што ў Аўстраліі ў гэты ж час ствараў свой вянок санетаў Алесь Салавей. Для Кавыля гэтая гонка міжакіянскіх версіфікатарскіх узбраенняў скончылася, бадай што, не вельмі добра – увайшоўшы ў магію цвёрдых формаў верша, ён доўгі час не мог выйсці з гэтага дурману і месцамі стаў нагадваць ці то Соф'ю Шах, ці то Ізяслава Катлярова. Што, зрэшты, не перашкаджала гэтым тэкстам быць аднымі з найлепшых узораў літаратуры эміграцыі дый усёй беларускай паэзіі 1950-х наагул. Тым не менш найлепшымі тэкстамі Кавыля, і здаецца, пра гэта гаварыў ужо Макс Шчур, ёсць зборнік “Пад зорамі белымі”. Па-мойму, і сёння гэта найлепшыя беларускія вершы пра Нью-Ёрк, пра эмоцыю эміграната, які толькі што ступіў на новы бераг, і яго яшчэ крыху носіць ад марской хваробы ці то джэтлагу, але і адчуванні такія, быццам першы дзень жывеш на зямлі і ўпершыню бачыш цвёрдыя, вадкія і газападобныя рэчы вакол сябе.

Безумоўна, ёсць у выданні і прагалы. Скажам, выданне рамана “З вагню ды ў полымя” нейк занадта даўно анансуецца, а мы так і не ведаем, што там за раман. Прыемна, што ў кнігу ўвайшлі і “Роздумы” Марка Аўрэлія, бо мая эмігранцкая кніжка гэтага Кавылёвага перакладу ўжо цалкам рассыпалася. Таксама мне асабіста хацелася б пэўнага экскурсу ў даваеннага Язэпа Лешчанку, падсветкі архівамі і старымі шэрхлымі газетамі, але хаценні пакуль застаецца сублімаваць нечым іншым.

Сякія-такія прагалы і запоўненыя. Скажам, ёсць у кнізе жменя літаратурнай крытыкі і публіцыстыкі Кавыля, дзе ён як апавядальнік (а ён вельмі добра ўмее дэталізаваць і апісваць) даволі нечакана для “пастаяннага чытача Кавыля” раскрываецца. Скажам, вельмі кранальны партрэт Юркі Віцьбіча – можа, найлепшае з тэкстаў пра гэтага аўтара. Зачапіла дэталька, як Віцьбіч кожны раз, калі ў Кавыля штосьці публікавалася, тэлефанаваў і гаварыў у слухаўку “ўра!”:

“Апошні раз пачуў я “ўра!” за пару дзён перад трагічнай развязкай. Слабым голасам Юры Аляксандравіч віншаваў мяне з надрукаваньнем у “Царкоўным Сьветачы” майго артыкулу “Курган-помнік”. І, прызнацца, было неяк лягчэй на душы ад гэтага “ўра!”, хацелася брацца за машынку й пісаць нешта новае. А цяпер – глухамень, быццам і ты ўжо памёр… Болей ужо ніколі я не пачую “ўра!””.

Ура, Міхась Кавыль! Новая кніга, здарова, віншуем!

“Выбранае” Міхася Кавыля – 45-я кніга выдавецкай серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны”. Гэта першае пасля больш як трыццацігадовага перапынку выданне творчай спадчыны беларускага паэта-эмігранта ў ЗША. Кніга выдадзена Фондам Kamunikat.org. Укладальнік – Лявон Юрэвіч. Рэдагаванне і камэнтары: Наталлі Гардзіенкі.

Замовіць кнігу можна на kamunikat.org.

**Ціхан Чарнякевіч, budzma.org**

навіны

# У БРУКЛІНЕ БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧЫЛІ ВЯЛІКДЗЕНЬ

У Кафедральным саборы імя святога Кірылы Тураўскага, што ў Брукліне, вернікі адзначылі Вялікдзень.



Урачыстыя набажэнствы распачаліся 13 красавіка. У Вялікі Чацвер успаміналі Святыя Пакуты Хрыстовы і чыталі 12 урыўкаў з Новага Запавету аб апошніх гадзінах Ісуса Хрыста перад укрыжаваннем.

У Вялікую Пятніцу адбыўся вынас Плашчаніцы. Таксама клірыкі Кафедры протаіерэй Іван і дыякан Мікола чыталі ўрыўкі з Дабравесцяў аб смерці Госпада.

Позна вечарам у суботу 15 красавіка, каля 11.30 беларусы сабраліся на Паўночную службу. Яна плаўна перацякла ў Велікодную.

Вернікі зрабілі хросны ход па будынку царквы і грамадскай залы і заспявалі:

“Хрыстос уваскрэс з мёртвых, смерцю смерць патаптаў і існым у трунах жыццё падарыў”.

Пасля гэтага ўсе адзін аднаго пачалі вітаць словамі радасці: “Хрыстос уваскрос!” – “Сапраўды ўваскрос!”

Сутнасць Вялікадня ў Новым Запавеце – вечнае жыццё праз веру ва ўваскрасенне Збаўцы. У Святым Пісанні сказана: “Калі мы верым, што Ісус памёр і ўваскрос, то і памерлых у Ісусе Бог прывядзе з Ім”.

Гэта надзея для ўсіх вернікаў на ўваскрасенне. Таму ў храмах праходзяць урачыстыя богаслужэнні, якія праслаўляюць перамогу Хрыста над смерцю. Пазітыўны настрой свята выяўляецца і ў яго атрыбутах – пасках і фарбаваных курыных яйках.

Падчас набажэнства айцец Іван Кухар зачытаў велікоднае віншаванне ад архіепіскапа БАПЦ Святаслава. У ім былі такія словы:

“Віншую з Вялікаднем усіх беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне, асабліва палітычных зняволеных і пераследаваных, і тых, што знаходзячыся ў Замежжы, змагаюцца за Вольную Беларусь, у тым ліку й беларускіх жаўнераў, што дапамагаюць братняй Украіне абараняцца ад агрэсіі маскоўскае імперыі зла. Зычу ўсім суайчыннікам напоўніць свае сэрцы любоўю да Госпада і сваіх блізкіх, да роднае Беларусі і ўсяго ейнага духоўнага скарбу, які захавалі й перадалі нам нашыя продкі. Молімся таксама за ўсіх хрысціянаў, каб кожны народ быў вольным і мог славіць Бога у сваёй Царкве, у сваіх традыцыях і абрадах, на сваёй роднай мове”.

Перад заканчэннем Велікоднай літургіі протаіерэй Іван Кухар асвяціў артас (“квасны хлеб”), які спякла верніца Таццяна Красоўская. Гэты хлеб звычайна ўжываецца праз тыдзень пасля святкавання Вялікадня. Ён увасабляе уваскрасенне Хрыстова.

Велікоднае набажэнства ў саборы скончылася агульнай кайнаніяй за святочным сталом, якому папярэднічала асвячэнне пасак, яек і ежы.

Прысутныя таксама маглі паслухаць канцэрт Тацяны Грыневіч, вядомай беларускай спявачкі, якая завітала ў ЗША з Турэччыны.

Алесь Пазьняк, bielarus.info

# У ШВЕЦЫІ ПАСТАВІЛІ СПЕКТАКЛЬ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ТУРМУ СЛОВАМІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА І МАКСІМА ЗНАКА

Прэм’ера спектакля-чыткі “Бяляцкі, прасі літасці!” прайшла 20 красавіка ў Каралеўскім драматычным тэатры “Драматэн” у Стакгольме. У межах праекта “Драматэн.doc” чацвёра артыстаў прадставілі інсцэніроўку паводле твораў “Бяляцкі, пішыце прашэнне аб памілаванні” праваабронцы Алеся Бяляцкага і “Зэкамерон” адваката Максіма Знака.

Нагадаем, што яны абодва зараз з’яўляюцца палітычнымі зняволенымі. Пра прэм’еру і праект распавёў мастацкі кіраўнік dramaten.doc Дзмітрый Плакс.

– Чаму я спалучыў гэтыя два творы? Таму што мне падалося, што яны дапаўняюць адзін аднаго вельмі цікавым чынам. Бо для Бяляцкага турма і адсідкі – гэта частка яго жыцця. Гэта яго выбар свядомы. Уласна кажучы, пра гэта ў яго тэксце і ідзе размова, калі яму прапануюць напісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, і ён адмаўляецца. Гэта пра яго папярэднюю адсідку. Як мы ведаем, ён гэтага тады так і не зрабіў і адсядзеў увесь тэрмін. Бо яго стаўленне прынцыповае: тое за што ён сядзіць, пакутуе, яно як бы больш за яго. Эсэ ў гэтым сэнсе мае такі філасофскі характар.

Што тычыцца тэксту кнігі Знака “Зэкамерон”, то яна напісана, як мне падаецца, з пункту гледжання чалавека, які ніколі ў жыцці нават не дапускаў такой магчымасці – трапіць у турму. Гэта замалёўкі такога побытавага характару пра тое, якім абсурдным светам ёсць турма.

Гэтыя два тэксты ў спалучэнні, а я зрабіў, вядома, драматургічную апрацоўку, то-бок у спалучэнні і апрацоўцы раскрываюць для мяне гэтую тэму з двух бакоў. З аднаго боку, гэтая абсурднасць і саркастычны тон Максіма Знака, які апісвае штодзённасць у турме, а з другога боку – такі погляд, не тое, што звонку, але зверху, напэўна, на гэты феномен як такі. Бяляцкі распавядае “чаму”, а Знак – “як”.

Тут яшчэ ёсць момант. Перад самой п’есай я яшчэ выкарыстоўваю тэкст Нобелеўскай прамовы, з якой жонка Бяляцкага Наталля Пінчук выступала ў Осла падчас уручэння прэміі міру. Я зрабіў таксама, з дазволу Наталлі, вядома, апрацоўку гэтага тэксту. Ён складаецца таксама з дзвюх частак – з уласна слоў самой Наталлі і з той кампіляцыі слоў Алеся, якую яна зрабіла. Для мяне гэта вельмі моцная прамова і яна адразу стварае кантэкст.

**– Акрамя шведскага гледача, на каго яшчэ разлічаны гэты спектакль-чытка?**

– Гэта Каралеўскі драматычны тэатр, то бок Нацыянальны тэатр Швецыі. Ён, вядома, паказвае спектаклі для шведскай публікі, гэта ж па-шведску.

**– Не плануецца нейкім чынам распаўсюдзіць? Праз YouTube, напрыклад?**

– Мы рабілі гэта калісьці, калі я колькі год таму, два гады з гакам недзе, ставіў спектакль Андрэя Курэйчыка “Пакрыўджаныя. Беларусь (ія)” тут у “Драматэне” таксама, то тады мы гэта зрабілі. Зрабілі здымкі, потым мантаж, потым пераклалі, субтытры і гэтак далей. Але гэта занадта складана. Тэатр не зусім у стане такія рэчы рабіць.

novychas.online паводле radiounet.fm

культура

# “БЕЛАРУСКІ ЦУД”: НАША ТРАДЫЦЫЙНАЯ КУЛЬТУРА ПРАРАСТАЕ Ў ЛІТВЕ

Для кіраўнічкі гурта традыцыйных спеваў “Беларускі цуд” Святланы Чакушкі беларускі фальклор – гэта “і тэрапія, і паглыбленне ў нашу культуру, і прасоўванне яе там, дзе апынуліся зараз многія беларусы”.

Беларускі культурніцкі ландшафт Вільні неяк ужо і цяжка ўявіць зараз без “Беларускага цуду”. Дзяўчаты ў традыцыйных строях бяруць удзел у “Ночы (не) расстраляных паэтаў”, калядуюць, адкрываюць паэтычны фэст, ствараюць культурныя праекты ў падтрымку Украіны, спяваюць на самых розных беларускіх і не толькі імпрэзах.

Пры гэтым, як кажа кіраўнічка гурта “Беларускі цуд” Святлана Чакушка, музыка – гэта “нават не мая профільная адукацыя, з музычнай адукацыяй у мяне – музычная школа па класе фартэпіяна”.

– Па першай адукацыя я гісторык, па другой – менеджарка сацыякультурных праектаў. Так што я не маю профільнай адукацыі ў вакальнай сферы, сферы этнамузыкалогіі, народных спеваў. Усё, што я ведаю і ўмею, гэта ў большай ступені напрацавана практыкай, камунікацыяй з больш дасведчанымі людзьмі. Я не лічу сябе спецыялісткай у гэтай галіне, але проста маю жаданне падзяліцца тым, што ведаю сама, з людзьмі, якім гэта цікава.

**– Дык а як гэтыя спевы ўвайшлі так моцна ў вашае жыццё?**

– Насамрэч, цікавасць з’явілася вельмі даўно, я пачала цікавіцца менавіта традыцыйнымі спевамі, калі паступіла ў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, створаны на базе Наваполацкага політэхнічнага інстытута. Пры ўніверсітэце па ініцыятыве выкладчыкаў гісторыка-філалагічнага факультэта быў створаны клуб “Княжыч”, які займаўся вывучэннем беларускіх традыцый, гісторыі, і менавіта праз “Княжыч” я зацікавілася фальклорам, беларускімі спевамі, нашай традыцыйнай культурай. За гэта, перш за ўсё, хочацца падзякаваць маім выкладчыкам і выкладчыцам – Вользе Антонаўне Емельянчык, якая навучыла мяне спяваць, Уладзіміру Аляксандравічу Лобачу – ён проста профі ў галіне даследавання беларускай традыцыйнай культуры. Сваё захапленне яны перадалі сваім шматлікім студэнтам і студэнткам. Гэта былі вельмі такія насычаныя студэнцкія часы. Лічу, што мне вельмі пашанцавала, што патрапіла тады ў такі асяродак, бо адтуль не толькі любоў да спеваў, але ўвогуле ўсведамленне важнасці беларускасці, мовы, ведання беларускай гісторыі. І тое, кім я ёсць зараз, шмат у чым было закладзена менавіта падчас маёй вучобы ва ўніверсітэце, тады была такая там атмасфера і такія людзі, што там працавалі. Мая падзяка да сённяшняга часу ім.



Святлана Чакушка

**– Зараз вы ў Вільні…**

– Ну, глабальна зразумела, чаму я тут. З’ехала ў жніўні 2021 года, быў шэраг прычын, адна з галоўных прычын – гэта разгром беларускага трэцяга сектара, які адбыўся ў ліпені 2021-га. А я апошнія гадоў восем шчыльна працавала якраз у НДА, то-бок, стала відавочным, што месца дзейнасці больш няма… Стан поўнай разгубленасці, пры гэтым з’язджаць вельмі не хацелася, бо вельмі люблю Беларусь, сваю малую радзіму, родных, увогуле не ўяўляю сваё жыццё без Беларусі, але сітуацыя такая, на жаль. Лічу, што сёння магу прынесці Беларусі больш карысці тут.

**– А малая радзіма, гэта дзе?**

– Лёзненшчына, на мяжы з Расіяй. Там вёска, дзе нарадзілася мама, дзе я шмат праводзіла часу ў дзяцінстве і юнацтве. Сама з Віцебска, але палову свайго жыцця правяла ў вёсцы на Лёзненшчыне. Як я кажу, мяне там чакаюць мае магілы. І там яшчэ ёсць людзі, да якіх можна прыехаць. Я вельмі сумую па гэтых мясцінах, гэта – маё месца моцы, якога зараз я пазбаўленая, адчуваю гэта вось проста на фізічным узроўні. Вельмі не хапае.

**– Пасля ўніверсітэта працягвалі займацца спевамі?**

– Гэта даволі доўгая гісторыя. Пасля навучання ва ўніверсітэце, дзе я спявала ў “Княжычы”, з’ехала па размеркаванні працаваць у школу ў вёску. Там спрабавала неяк спяваць у мясцовым клубе, гэта быў вельмі цікавы досвед – такая, што называецца, мастацкая самадзейнасць пад баян. Потым вярнулася ў Віцебск, па розных прычынах крышачку выпала з гэтай усёй хвалі, але ў нейкі момант у галаве ўключылася лямпачка: я ж ужо ўмею спяваць, можа з гэтым можна нешта зрабіць? У мяне ёсць сябра студэнцкі, даволі вядомы культурны дзяяч, прадзюсар Віталь Броўка, які на той момант жыў у Віцебску. І я звярнулася да яго па дапамогу. Так праз яго пазнаёмілася з дзяўчатамі і хлопцамі з віцебскай, скажам так, каляэтнічнай супольці, у выніку гэтых знаёмстваў у нас з’явіўся гурт з вельмі дзіўнай назвай “Паўночная Сухадроўка”.

**– Экзатычна…**

– Сухадроўка – гэта такая рэчка, што працякае ў Віцебскім і Лёзненскім раёнах, мы вырашылі, па аналогіі з Заходняй Дзвіной, неяк абазначыць прыналежнасць – так і атрымалася “Паўночная Сухадроўка”. Спявалі, ладзілі ў Віцебску розныя імпрэзы, нават два разы ездзілі на этнафэст у Даўгаўпілс. Ганаруся, што змаглі рэалізаваць праект “Забаўлянкі для Янкі” пры дапамозе кампаніі “Будзьма беларусамі!” у 2013 годзе. Тады ў Віцебску быў цэнтр рамёстваў “Задзвінне” – на яго базе зрабілі серыю асветніцкіх сустрэч для бацькоў і дзяцей, расказвалі ім пра розныя беларускія абрады, традыцыі дзіцячага выхавання, ладзілі Каляды, гукалі вясну, дзеці рабілі батлейку, якую потым паказвалі ў Тэатры лялек. У выніку нават змаглі запісаць дыск з калыханкамі і казкамі. Сам дыск “Калыханкі для Янкі” ўжо даўно разышоўся, зразумела, але можна і зараз яго спампаваць у інтэрнэце і свабодна карыстацца для выхавання сваіх дзетак па-беларуску.

Яшчэ ў Віцебску лёс звёў мяне са Студэнцкім этнаграфічным таварыствам, мелі даволі цесныя стасункі з мінскай этнасуполкай. То калі пераехала ў Мінск, стала больш удзельнічаць у жыцці СЭТ. Дзяўчаты з гурта “Мярэжа” запрасілі далучыцца да іх – і апошнія сем год да ад’езду з Беларусі спявала там, ды й нават зараз я лічу сябе часткай “Мярэжы”. Падтрымліваем сувязь, па магчымасці сустракаемся, нягледзячы на тое, што ёсць “Беларускі цуд”, працягваю лічыць сябе часткай “Мярэжы”, бо гурт, дзяўчаты з гурта – частка маёй душы. Упэўнена, што калісьці мы працягнем супрацу. Я шмат чаму ад іх навучылася і шмат чаго зрабілі разам, удзельнічалі ў фэстах і ў Беларусі, і за мяжой. Таксама запісалі інтэрнэт-альбом Жніўных песень. Перад маім ад’ездам нават паспелі запісаць колькі песень у студыі – яны пакуль чакаюць свайго часу.

**– Гэта песні свята ўраджаю?**

– Песні розныя, бо працэс жніва доўгі – там ёсць песні і пачатку жніва альбо зажынкі, шмат песень, якія жанчыны спявалі ў працэсе. Спевы – шматфункцыянальная справа, асабліва калі казаць пра традыцыйныя, абрадавыя спевы, якія неслі шмат розных сэнсаў. Прынамсі, калі актуалізаваць да сённяшніх рэалій, то гэта такая псіхалагічная тэрапія. Працэс жніва – гэта цяжкая фізічная праца. Жанчыны спявалі і для таго, каб адпачыць, і для таго, каб скінуць нейкія негатыўныя эмоцыі, і каб неяк паўздзейнічаць на навакольны свет, бо людзі ж верылі, што праз асаблівыя песні ды абрады могуць узаемадзейнічаць са светам прыродным, са светам продкаў. Падчас жніва поле звінела ад спеваў. Калі ўжо жніво сканчалася, то свята дажынак, якое зараз, на жаль, па вядомых прычынах мае не дужа пазітыўную канатацыю. Але святкавалі вельмі ўрачыста, жнейкі былі цэнтрам увагі – іх аддзячвалі за тое, што яны зрабілі такую важную працу, бо без зерня не будзе жыцця. Жыта і жыццё перагукаюцца, думаю, гэта не проста так.

Зараз у мяне адчуванне, што шмат якія святы – гэта ўжо крышачку псеўдафальклорная культура, якую прасоўвалі і зараз прасоўваюць дамы культуры. Людзі там розныя, ёсць шмат цудоўных людзей, якія працуюць са спадчынай, але і шмат пастановачных нейкіх дзеянняў, якія да традыцыйнай культуры не маюць

аніякіх адносінаў. На жаль, вёска памірае глабальна. Няма працы, перспектываў, моладзь з'язджае. Застаюцца старыя людзі, якія паціху сыходзяць. З аднаго боку, гэта аб'ектыўная рэальнасць – мы жывём у іншай цывілізацыі, у нас няма патрэбы ісці ў поле жаць, ці зімовымі вечарамі ткаць палотны і г. д. Зразумела, што гэта ўплывае на ўсю сістэму жыцця. Але ў нас назапашана вельмі шмат інфармацыі, вельмі шмат запісаў, і яны паступова акадэмічнымі ўстановамі выкладаюцца ў адкрыты доступ, пэўная частка ўжо аблічбаваная, то-бок гэтым можна карыстацца, можна слухаць, знаёміцца, выкарыстоўваць і ў навуковай, і ў творчай дзейнасці.

**– Дык а як выйсці з-пад уплыву "псеўда"?**

– Мне здаецца, варта знаёміцца з досведам іншых краін, той жа Літвы, Эстоніі, Польшчы, дзе даволі шмат цікавага ў гэтай сферы адбываецца. Пачынаць знаёміць людзей з традыцыйнай культурай са школы, з дзіцячага садка. Зразумела, гэта не павінна быць пад прымусам, такой, як гаворыцца, абязлаўкай, але дзеці павінны хаця б мець уяўленне пра тое, якое ў нас ёсць багацце, чым займаліся і як жылі нашы продкі, як можна гэта трансляваць у сучаснай прасторы. Паглядзіце на Літву: тут паўсюль выкарыстоўваюцца тыя ж саламяныя павукі, якіх у Беларусі ўжо многія і не ведаюць, хаця гэта было распаўсюджана ў нашай культуры. А ў Літве бачыш іх паўсюль, яны натуральна ўпісваюцца ў любы дызайн інтэр'ераў. Ці паглядзіце, якую цікавасць выклікае свята Казюкас. І можна не вынаходзіць ровар, а пазнаёміцца з тым, як гэта адбываецца ў іншых краінах, блізкіх і нават не блізкіх.

У мінулым годзе я была ў Осла, мы хадзілі ў мясцовы скансэн, гэта быў снежань, халодна, але пры гэтым там вельмі шмат людзей з дзецьмі, якія там ці то палачкі стругаюць, ці то нейкія караблікі робяць, ці то танчаць на сцэне свае нарвежскія танцы у строях. І бачна, што самі нарвежцы ўсведамляюць важнасць знаёмства сваіх дзетак з традыцыйнай народнай культурай. Ёсць што пераймаць, ёсць што перапрацоўваць. Спадзяюся, пабачым такое і ў нас. Адзінае, што вельмі важна, на мой погляд, каб распрацоўкай такіх праграм займаліся адмыслоўцы. З аднаго боку, трэба пачынаць са школы, з іншага, трэба пераглядаць праграмы адпаведных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, каб старацца максімальна выціснуць з прасторы гэты псеўдафолк, які прыйшоў яшчэ з савецкіх часоў і які вельмі моцна нашкодзіў беларускай традыцыйнай культуры і ўспрыманню яе людзьмі. Гэта вельмі вялікая праца, насамрэч. Спадзяюся, што ў нас ва ўсіх будзе магчымасць гэтым займацца.

**– Вернемся да "Беларускага цуду", вы адразу па пераездзе заняліся ім?**

– Ехала сюды з думкай, што абавязкова што-небудзь тут прыдумаю, зраблю нейкі гурток, бо для мяне гэта было і ёсць важным. Спевы і фальклор – частка мяне, і без гэтага не жыву. Амаль адразу знайшлося памяшканне – Беларускі дом у Вільні. Я дала абвестку, але не ставіла ад пачатку мэту рабіць менавіта гурт, які выступае і г. д. Мне было важна знайсці аднадумцаў, спяваць з імі, перадаваць камусьці тое, што сама ведаю – у гэтым і мая падтрымка самой сябе. Па-другое, ведаючы тэрапеўтычную сілу традыцыйнага спеву, разумела, што шмат хто з пераехалых знаходзіліся і знаходзяцца не ў найлепшым псіхалагічным стане. Спадзявалася, што хоць чымсьці змагу дапамагчы, што яны хоць раз на тыдзень змогуць прыйсці паспяваць і праз спевы свой боль, свае негатыўныя эмоцыі, траўмы падлечыць. Для мяне таксама вельмі важна прасоўваць каштоўнасць нашай культуры. Каб мы, вымушана з'ехалыя, не забывалі, адкуль мы. Для мяне спевы – гэта нітка, што звязвае мяне з Радзімай. І для мяне важна гэтую нітку перадаць і іншым людзям, паказаць ім прыгажосць і шматбаковасць нашай культуры. Паказаць, што нам ёсць чым ганарыцца, ёсць што ведаць і вывучаць, што трансляваць іншым. Ну і такі гурток – гэта не толькі паспяваць, але пагаварыць, пасябраваць. За ўжо дастаткова доўгі час склаліся даволі цёплыя сяброўскія адносіны – і гэта вельмі класна. Зараз з ліку тых людзей, што ходзяць спяваць, ёсць частка, якія хочуць выступаць публічна, ёсць тыя, хто хоча пець толькі для сябе, для душы. За апошні год пачалі паступова абзаводзіцца строямі, хай яны яшчэ пакуль не вельмі дасканалыя, але ўсё ж…

**– І як абзавядзенне строямі?**

– Па-рознаму, хтосьці замаўляе, хтосьці сам шые. Я крышачку, дарэчы, умею таксама шыць і вышываць, так што і тут магу нечым падзяліцца. Ну і я бачу цікаўнасць, цікаўнасць ужо не проста пець, бачу, што многія потым пачынаюць цікавіцца глыбей. Гэта вельмі класна. Часам хтосьці прыходзіць са сваімі дзецьмі, якія, здаецца, займаюцца сваімі справамі падчас нашых заняткаў, але ж усё бачаць і чуюць. То-бок, такое нязмушанае паглыбленне адбываецца ў традыцыйную культуру. Вось так уласна кажучы і з'явіўся гурт традыцыйнага спеву "Беларускі цуд".

**– Наколькі ведаю, ёсць яшчэ ўдзел у літоўскім гурце?**

– Мяне запрасілі ў гурт Namysto, які быў створаны яшчэ ў 2019 годзе літоўскімі дзяўчатамі і хлопцамі, якія цікавяцца ўкраінскім фальклорам. Пасля пачатку вайны ў Літву пераехала вядомая ўкраінская этнамузыкалагіня і спявачка Галіна Пшанічкіна, яе прыезд і прыцягненне да дзейнасці гурта даў яму новы імпульс. Адна з дзяўчат ведала мяне – і запрасіла далучыцца да іх спяваць украінскі фальклор. Так, зараз я ўдзельніца і Namysto. Быў ужо першы досвед выступленняў, спявалі на звычайным канцэрце і на акцыі 24 лютага. Для мяне гэта вельмі цікавы накірунак, мне вельмі важна не толькі аддаваць, але вучыцца і браць ад іншых людзей. Вельмі рада такой магчымасці, новаму ўзроўню.

**– Што ў планах?**

– Не люблю планаваць, асабліва ў цяперашніх умовах. Але – закончыць навучальны год, у лістападзе быў набор у новую групу жадаючых спяваць, зараз ужо некаторыя людзі з гэтай групы далучаюцца да "старшакурснікаў", некаторыя ўжо гатовыя выступаць публічна. Працягнем працу над строямі. На канец чэрвеня нас запрасілі на фэст у Польшчу. Увогуле, вельмі часта нам тэлефануюць і запрашаюць выступіць за два-тры дні да мерапрыемства, такое сабе планаванне. Чакаем лета.


Гурт "Беларускі цуд"

Рыгор Сапежынскі, budzma.org




**Чарнобыльскі Шлях**

# БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ ПРАЙШЛІ ЧАРНОБЫЛЬСКІМ ШЛЯХАМ

У Вільні на акцыю выйшлі каля 300 беларусаў. Шэсці і мітынгі 26 красавіка, у 37-ю гадавіну трагедыі на Чарнобыльскай АЭС, таксама адбыліся ў іншых гарадах свету, дзе аселі беларусы.

Намер Масквы размясціць ядзерную зброю ў Беларусі дадаў іншае гучанне традыцыйнай акцыі ў гэты дзень. Удзельнікі акцыі сабраліся на мітынг на Лукішскай плошчы, а потым прайшлі праз горад да амбасады Расеі ў Літве.

У галаве калоны “сілавікі” ў чорным і ў балаклавах неслі макет ядзернай ракеты, якую па завяршэнні мітынгу спалілі ў скверы Барыса Нямцова побач з расейскай амбасадай.

Шэсце адбылося пад беларускімі, украінскімі і літоўскімі сцягамі.

Там жа, ля расейскай амбасады, была прынятая рэзалюцыя Чарнобыльскага шляху-2023.

“Урокі Чарнобыля не засвоеныя. У той час як на Захадзе недаацэньваюць рызыкі і не ўжываюць усіх мер, Расея, Беларусь і Паўночная Карэя працягваюць ядзерную экспансію. Расея, якая не абмяжоўваецца ваеннымі атакамі на атамныя электрастанцыі і іх захопам, пагражае ядзернай зброяй, і сёння гэта пагроза вяртання сродкаў наземнага базавання ў Беларусь”, – зазначаецца ў рэзалюцыі.

Падкрэслена, што “дзеяння па захопу Расеяй АЭС і вяртанню ядзернай зброі ў Беларусь не дадзена прававой ацэнкі, што стварае небяспечны прэцэдэнт, за якім могуць прыйсці іншыя, яшчэ больш небяспечныя і маштабныя”.

Рэзалюцыя патрабуе ад міжнароднай супольнасці адказу на ядзерныя пагрозы і выклікі калектыўнай бяспецы, у тым ліку “прыняцця неадкладных мер па спыненні фінансавай і тэхналагічнай падтрымкі ядзернай экспансіі Расеі, уключна з забаронай на пастаўкі тэхналогій атамнай прамысловасці і для вытворчасці ядзернай зброі”.

**Рыгор Сапежынскі, budzma.org**




У гадавіну Чарнобыльскай катастрофы беларусы Таронта аддалі пашану ўсім ахвярам аварыі, перасяленцам, усім хто пацярпеў і цярпіць на хваробы ад радыяцыі. Фота: belarusians.ca

**абвесткі**

## ЦЭНТР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ І СУПОЛЬНАСЦІ Ў ЛІТВЕ ЗВЯРТАЕЦЦА ПА ДАПАМОГУ

Цэнтр беларускай культуры і супольнасці (музей імя Івана Луцкевіча) – гэта некамерцыйная арганізацыя, якая працуе ў Літве. Цэнтр імкнецца ствараць прастору для самых розных беларускіх праектаў і ініцыятыў.

Зараз на базе Цэнтра беларускай культуры і супольнасці працуе Нядзельная школка (дзе штовыходныя праводзіцца па 15 заняткаў для беларускіх дзяцей і падлеткаў, а штомесяц адзначаюцца беларускія святы), Жаночы клуб, курсы soft-skills у IT для падлеткаў, курсы беларускай/літоўскай/польскай моваў, ка-воркінг, бібліятэка, ладзяцца самыя розныя прэзентацыі, сустрэчы, імпрэзы і многае другое. Зараз Цэнтру неабходна дапамога!

Як гэта зрабіць?

Калі вы плаціце падаткі ў Літве, то вы самі можаце накіраваць 1,2% ад сваіх падаткаў любой некамерцыйнай арганізацыі.

Гэта робіцца падчас перыяду запаўнення дэкларацыі (то бок, вось акурат зараз!). Ад сярэдняга заробку гэта 38,84 еўра.

Бо для Цэнтра беларускай культуры і супольнасці 38,84 еўра – гэта:

– ад 3 да 5 кніжак на беларускай мове дзецям,

– ці 2 дні, забяспечаныя прысмакамі для навучэнцаў школкі (бутэрброды, гародніна, садавіна, печыва),

– ці ад 3 да 4 заняткаў Творчай Майстэрні з цікавымі матэрыялямі,

– ці цэлы месяц, забяспечаны друкам (матэрыялы для заняткаў па мовах для дзетак і дарослых) і г. д.

Рэквізіты Беларускага Дома:

I. Luckevičiaus baltarusių muziejus, VšĮ, код установы 110082694

Тут можна падрабязна паглядзець, як гэта ўсё знайсці ў сваім падатковым кабінеце.

Калі ў вас засталіся любыя пытанні, то можна напісаць сюды.

**budzma.org**

## МУЗЕЙ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ ФАРМІРУЕ КАМАНДУ І ЗАПРАШАЕ ДАЛУЧАЦЦА

Музей вольнай Беларусі разам з партнёрам – Асацыяцый прадпрымальнікаў AIST – аб’яўляе аб пачатку PROMO-кампаніі.

Музей шукае новыя ідэі для ўзмацнення іміджу Музея вольнай Беларусі як месца аб’яднання вольных беларусаў, захавання беларускай культуры і яе інтэграцыі з еўрапейскай. Таксама патрэбна дапамога ў пабудове ўстойлівай сістэмы фандрайзінгу ў партнёрстве з вядучымі польскімі арганізацыямі, якія спецыялізуюцца на пытаннях фінансавання некамерцыйных арганізацый.

“Мы фарміруем каманду і запрашаем далучыцца да яе маладых крэатыўных людзей, якія вучацца па спецыяльнасцях, звязаных са стратэгічным маркетынгам, сувязямі з грамадскасцю, стварэннем і кіраваннем карпаратыўнага брэнду. Мы чакаем памочнікаў, якія ўжо маюць вопыт у падобных праектах ці моцна жадаюць яго набыць”, – паведамляецца ў інстаграме музея. Вітаюцца веданне польскай і ангельскай моў, досвед валанцёрства, знаёмства з варшаўскай культурнай супольнасцю і арганізацыямі, якія падтрымліваюць развіццё культуры, і маюць шчырыя намеры падтрымаць Музей.

Дашліце кароткае рэзюмэ з абгрунтаваннем, чаму менавіта вы зможаце рэалізаваць пастаўленыя задачы, на пошту contact@aist.space з адзнакай “PROMO”.

**Reform.by**

навіны

# ЛАТВІЙСКАЕ ТБК “СЬВІТАНАК” ШЧЫРА ДЗЯКУЕ МАСТАЧЦЫ ВОЛЬЗЕ ЯКУБОЎСКАЙ І МЕЦЭНАТУ ІВАНУ БАХЦІНУ

Сябры і кіраўніцтва Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” выказваюць шчырую падзяку за дапамогу мастачцы Вользе Якубоўскай і беларускаму мецэнату Івану Бахціну.

Як вядома, наша таварыства ўжо амаль 35 гадоў працуе ў Латвіі, і існаванне таварыства заўсёды, яшчэ з савецкіх часоў, грунтавалася выключна на шматгадовай грамадскай працы ягоных сяброў. У адрозненне ад усіх іншых нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі, калі не лічыць некалькіх гадоў сапраўднай незалежнасці Беларусі на пачатку 90-х, “Сьвітанак” не меў ніколі ніякай падтрымкі з боку беларускай дзяржавы, нашай Радзімы. Ні інфарматыўнай, ні метадычнай, ні тым больш фінансавай. Бо “Сьвітанак” незалежна ад палітычнай сітуацыі ў Беларусі заўсёды заставаўся абаронцам у Латвіі і нашай мовы і культуры, і гістарычных сімвалаў, і незалежнасці Беларусі. З моманту свайго заснавання ў 1988 годзе ЛТБК “Сьвітанак” з'яўляецца таксама заснавальнікам Асацыяцыі Нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч. Амаль штомесяц сябры таварыства ладзяць розныя культурныя мерапрыемствы. І каб утрымліваць будынак Асацыяцыі на вул. Слокас, 37, дзе мы маем невялічкі офіс, і мець магчымасць карыстацца заламі для імпрэз, таварыству разам з больш як 25 суполкамі іншых нацыянальнасцяў трэба плаціць унёскі ў Асацыяцыю памерам 360 еўра на год. На працягу 35 гадоў гэтыя, здаецца, і не надта вялікія для цэлай арганізацыі грошы збіралі сярод адных і тых жа шматгадовых яе сяброў і мастакоў з Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар”. А з улікам таго, што абсалютную большасць сяброў “Сьвітанка” да 2023 года складалі пенсіянеры, гэта не было проста, асабліва ў папярэднія цяжкія гады. І таму, калі на апошнюю імпрэзу “Свьвітанка”, прымеркаванае да 25 сакавіка ад-



крыццё выставы беларускай мастачкі Вольгі Якубоўскай, прыйшла вялікая колькасць беларусаў, каля 100 чалавек, кіраўніцтва таварыства вырашыла звярнуцца да латвійскай супольнасці беларусаў па дапамогу. У звароце, які быў змешчаны ў мясцовых беларускіх чатах, была прапанова агульнымі намаганнямі сабраць грошы на ўнёсак у Асацыяцыю за гэты год. І хоць водгук на гэты зварот аказаўся пакуль што амаль безвыніковым, дапамога таварыству прыйшла адтуль, адкуль мы яе зусім не чакалі!

Вольга Якубоўская змясціла зварот і абвясціла дабрачынны аўкцыён на сваёй старонцы ў фэйсбуку. Мастачка напісала, што вельмі хоча дапамагчы сваім новым сябрам ў Рызе і выставіла на аўкцыён сваю шыкоўную карціну “Падарунак”. І практычна адразу ж яе прыдбаў Іван Бахцін, які жыве не ў Латвіі, за ўсю суму гадавых ўнёскаў таварыства ў Асацыяцыю. Больш за тое, Іван нават адразу прапанаваў, каб і сама карціна засталася ў таварыстве як падарунак ад яго. Вольга, вядома, спачатку не пагадзілася, але рашэнне гаспадара карціны было прынцыповым. Іван вельмі сціплы чалавек і ніяк нідзе не афішуе сваю дабрачыннасць і мецэнацтва. Ад Вольгі мы даведаліся, што ён удзельнік практычна ўсіх яе дабрачынных аўкцыёнаў і вельмі шмат каму дапамагае. У адказ на нашу падзяку малады чалавек напісаў, што не зрабіў нічога надзвычайнага, заўсёды рады дапамагчы, назваўшы нас адметнымі людзьмі. А яшчэ Іван вельмі задаволены, што мецэнацтва сярод беларусаў апошнім часам пашыраецца. Сябры і кіраўніцтва Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” лічаць адметнымі людзьмі менавіта Вольгу Якубоўскую і Івана Бахціна! Мы вельмі радыя, што можам тут, на нашай старонцы, працу якой мы не так даўно аднавілі пасля доўгага перапынку, публічна выказаць ім словы сваёй удзячнасці. Запрашаем Івана таксама пры магчымасці абавязкова наведаць Рыгу. Будзем заўсёды рады паказаць і сталіцу Латвіі, і наш прытулак на Слокас 37. А таксама будзем вельмі чакаць Івана ў лістападзе на нашым юбілеі і атрымаць ад іх з Вольгай агульны падарунак – “Падарунак”!

А ўсім, хто зараз ўжо знаходзіцца ў Латвіі, мы нагадваем, што першая ў Латвіі персанальная выстава беларускай мастачкі з Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар” Вольгі Якубоўскай даступная для агляду ў Рызе на вул. Слокас, 37 да 25 красавіка. Акрамя ўсім вядомых прац, намаляваных акрылам, у двух залах будынка выстаўленыя ўнікальныя скураныя карціны. Падрабязней пра выставу можна даведацца з нашых папярэдніх матэрыялаў на старонцы.

Таксама заклікаем беларусаў больш актыўна далучацца да шэрагу тых, хто падтрымлівае беларускую культурніцкую дзейнасць у Латвіі, накіраваную на захаванне нашай нацыянальнай ідэнтычнасці на гэтай зямлі.

**Кіраўніцтва ЛТБК “Сьвітанак”**

# ЧАРОЎНАЕ СВЯТА “ГУКАННЕ ВЯСНЫ” Ў ДАЎГАЎПІЛСЕ

Цікавыя народныя традыцыі ёсць у кожнага народа. Напрыклад, у беларусаў – гэта незвычайнае свята “Гуканне вясны”. Здаецца, калі не паклічаш гэтую самую вясну, яна і не прыйдзе да нас.

Раней людзі зазывалі, клікалі вясну вясёлымі песнямі і гульнямі, упрыгожвалі двор папяровымі птушкамі, на галінкі дрэў завязвалі рознакаляровыя стужкі, спадарыні выпякалі птушак з цеста і частавалі дзяцей. Казалі, калі птушкі ўбачаць такую прыгажосць, то хутка вернуцца ў родную старонку. Моладзь збіралася за вёскай на высокім пагорку вадзіць карагоды і спяваць песні.

Пачыналі гукаць вясну з сярэдзіны сакавіка. Прадаўжалася свята аж да таго часу, пакуль не пачыналася праца ў поле.

У беларускай нядзельнай школе “Вясёлка”, што працуе пры таварыстве “Уздым”, гукалі вясну. Дзеці ўдзельнічалі ў тэатралізаванай пастаноўцы “Ой вясна вясёлая!”, якую падрыхтавалі з настаўніцамі Людмілай Сіняковай, Тацянай Блізнаковай і Вольгай Паўловіч. Паказалі абрады гукання вясны, спявалі песні, вадзілі карагоды, з цікавасцю гулялі. Частаваліся гарбатай і смачнымі ласункамі – птушкамі, якія спякла старшыня таварыства “Уздым” Лілія Воранава.

Клас быў упрыгожаны вясеннімі галінкамі з папяровымі птушкамі, зробленымі рукамі дзяцей і іх бацькоў.

Свята прынесла задавальненне і дзецям, і дарослым. Дамоў ісці зусім не хацелася.

**Людміла Сінякова, uzdim.lv**



кніга

# У КАНАДЗЕ ВЫЙШЛА АНГЛАМОЎНАЯ КНІГА ЗІНАІДЫ ГІМПЕЛЕВІЧ ПРА БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

Кніга мае назву "Bielarusian Fine Art: Time and Time Again (Беларускае выяўленчае мастацтва: зноў і зноў)". Пра гэта паведамляе Бібліятэка і музей Францыска Скарыны ў Лондане на сваёй старонцы ў Facebook.

Аўтарка распавядае пра больш чым 150 беларускіх мастакоў, у тым ліку пра тых, хто стварыў аснову славутай Парыжскай школы. Для многіх заходніх аматараў мастацтва імёны, прыгаданыя ў кнізе, часта не асацыююцца з Беларуссю: Марк Шагал, Хаім Суцін і інш. Доктарка Зінаіда Гімпелевіч у сваёй кнізе выпраўляе гэтыя стэрэатыпы, а таксама сьмела залічвае да ліку беларускіх мастакоў і многіх тых, хто нарадзіліся на Беласточчыне, Дзьвіншчыне – там, дзе беларуская этнічная прысутнасць яшчэ нядаўна была відавочная. Аўтарка таксама цікава распавядае пра тое, чаму сярод сусветна вядомых аўтараў з Беларусі аказалася так шмат мастакоў габрэйскага паходжання. Кніга будзе цікавым адкрыццём не толькі для англамоўнага чытацтва, але і наогул – для ўсіх, хто цікавіцца беларускім мастацтвам.

Кніга асабліва дарагая раздзелам пра выяўленчае мастацтва беларускай эміграцыі: Віктара Жаўняровіча, Міхася Наўмовіча, Івонку Сурвіллу і інш. мастакоў і мастачак. Творы многіх з іх захоўваюцца ў Скарынаўскай бібліятэцы. Рэпрадукцыі некаторых з тых твораў упершыню апублікаваныя ў кнізе Зінаіды Гімпелевіч.




Кнігу можна набыць у папяровым і электронным варыянтах.

budzma.org

in memoriam

# ПАМЕРЛА ДЗЯЯЧКА БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ Ў ЗША МАРЫЯ ДЗЯМКОВІЧ

28 красавіка, на 94-м годзе жыцця, памерла мецэнатка і сапраўдная беларуская патрыётка Марыя Дзямковіч. Яна будзе пахаваная побач з бацькам у Чыкага.

Марыя Дзямковіч – дзяячка беларускай дыяспары ў ЗША, мецэнатка, доктар медыцыны.

Нарадзілася ў сялянскай сям'і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Пры канцы Другой сусветнай вайны сям'я пераехала ў Польшчу. Лёс сям'і Марыі Дзямковіч падчас вайны стаў адной з сюжэтных ліній рамана "Пакутны век" пісьменніка Васіля Якавенкі.



У 1948 г. здала экстэрнам экзамены за 7 класаў польскай школы і паступіла вучыцца ў эканамічны тэхнікум, які выдатна скончыла ў 1951 г. Пасля гэтага вучылася ў Вышэйшай медыцынскай школе ў Познані, якую скончыла ў 1957 г. Працавала дзіцячай доктаркай. За сваю працу атрымлівала ўзнагароды ад Міністэрства аховы здароўя ПНР.

З 1970 г. у ЗША. Жыла і працавала доктарам у Пітсбургу, потым пераехала пад Вашынгтон.

Пасля аварыі на ЧАЭС неаднойчы выступала ініцыятарам навукова-метадычнай і матэрыяльнай дапамогі Беларусі.

Многія гады падтрымлівала газету "Беларус", а таксама шматлікія дабрачынныя арганізацыі ў ЗША. Уздымала беларускае пытанне на сустрэчах з прэзідэнтамі ЗША Бушам (старэйшым) і Клінтанам.

**ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім спадарыні Марыі Дзямковіч.**

# ПАМЁР ФАЛЬКЛАРЫСТ І МУЗЫКАНТ СЦЯПАН КОПА

Памёр збіральнік спеўнай і музычнай спадчыны беларусаў Падляшша, фальклярыст, музыкант і аніматар культуры Сцяпан Копа.

Сцяпану Копу было 78 год.

Развітанне і паніхіда прайшлі 12 красавіка ў беластоцкай царкве Св. Юр'я.

Сцяпана Копу пахаваюць на праваслаўных могілках на Выгодзе ў Беластоку.



**ЗБС "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім спадара Сцяпана Копы.**

## Беларускі каляндар памятных дат на травень 2023 года

**4 траўня**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, загінуў Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызваленчага паўстання 1863–1864 гг.

**5 траўня**
- 55 гадоў таму, у 1968-м, у Дзятлаве адкрыўся музей народнай славы.
- 45 гадоў таму, у 1978-м, адкрыўся Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы.

**7 траўня**
- 155 гадоў таму, у 1868-м, нарадзіўся Раман Скірмунт, палітычны дзеяч. Забіты ў 1939-м.

**8 траўня**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Сцяпан Некрашэвіч, мовазнавец. Расстраляны ў 1937-м.

**9 траўня**
- Дзень Перамогі

**10 траўня**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Янка Маўр (сапр. Іван Фёдараў), адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры. Памёр у 1971-м.
- 25 гадоў таму, у 1998-м, памёр Уладзімір Шурпа, паэт.

**12 траўня**
- 190 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Бенедыкт Дыбоўскі, заолаг, прыродазнавец, лекар. Памёр у 1930-м.
- 160 гадоў таму, у 1863-м, застрэліўся Баляслаў Кульчыцкі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г.

**14 траўня**
- 410 гадоў таму, у 1613-м, мястэчка Жыровічы атрымала магдэбургскае права.

**15 траўня**
- 30 гадоў таму, у 1993-м, у Гомелі створаны Музей-лабараторыя Францыска Скарыны.

**21 траўня**
- 125 гадоў таму, у 1898-м, нарадзіўся Кастусь Кіслы, музыкант, кампазітар, дырыжор, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША. Памёр у 1980-м.

**22 траўня**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, расстраляны Станіслаў Ішора, ксёндз.

**23 траўня**
- 270 гадоў таму, у 1753-м, памерла Францішка Уршуля Радзівіл, пісьменніца.
- 50 гадоў таму, у 1973-м, памёр Мікалай Каранеўскі, інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

**26 траўня**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, загінуў Генрык Дмахоўскі, скульптар.

**28 траўня**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, забіты Вікенці Козел, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.
- 105 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Канстанцін Маскалік, грэка-каталіцкі святар, супрацоўнік Беларускай секцыі Ватыканскага радыё. Памёр у 2010-м.

**29 траўня**
- 90 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Мікола Гайдук, пісьменнік. Памёр у 1998-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 4 (251), красавік 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com